www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

№ 65 (4317)

17 жніўня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

**Сёння ў Мінску стартуе этап Кубка свету па мастацкай гімнастыцы.**
**Прэстыжныя спаборніцтвы, у якіх выступяць лепшыя грацыі планеты, пройдуць на пляцоўцы Falcon Club.**

# Беларусь павінна выплаціць у 2019 годзе 3,7 мільярда долараў па знешніх пазыках.


Фото БЕЛТА

БЫЛО СКАЗАНО...

## Александр ЛУКАШЕНКО:

«...Причина (*провала, связанного с комплексным развитием Оршанского района.* – **Ред.**) одна – в пофигическом отношении к поручениям президента республики. Поэтому на этой неделе внести предложения по замене всего руководства правительства, всей верхушки из резерва кадров, который мною сформирован... Хватит смотреть им в рот, и они будут нам рассказывать, как им сложно, как им трудно. В бухгалтерии зарылись. Всех до единого!

Внести предложения по министру промышленности (***Виталию Вовку.*** – **Ред.**) и по министру строительства (***Анатолию Черному.*** – **Ред.**). Он сидел, не мог отремонтировать крышу, выполнить поручение президента. Кто имел право отменять мои решения? А почему не выполнили, почему не сделали, как я сказал? Почему стройтрест кувыркается?

**Позняка** (*председателя Оршанского райисполкома.* – **Ред.**) отправить в отставку и найти ему другую работу. **Шерстнев** (*председатель Витебского облисполкома.* – **Ред.**), вы вносите предложение по **Исаченко** (*новому председателю райисполкма.* – **Ред.**). Я согласен: с сегодняшнего дня пусть начинает работать. И не дай Бог здесь не будет сделано то, что вы наметили, вчера вы нам эту программу развернули, и то, что я вам поручил. Как вариант: **Вовка** направьте сюда (*в Оршу.* – **Ред.**), который будет вытягивать всю эту промышленность. В какой должности я вчера Шерстневу сказал – пусть определяются...

...Строгий выговор **Шерстневу** за безобразное, безответственное отношение к порученному делу. По руководству правительства я сказал: **Вовка, Черного** немедленно отправить в отставку. **Двигалеву** (*председателю Госкомвоенпрома.* – **Ред.**), **Засю** (*госсекретарю Совета безопасности.* – **Ред.**) – полное служебное несоответствие. Не поправят к осени дело, не доложат мне по каждому предприятию – пойдут туда же. Всех остальных ответственных и прочих я просто предупреждаю: представите нового руководителя председателя райисполкома сегодня и поставите каждому задачу по всем предприятиям – вы (*Качанова, глава Администрации президента.* – **Ред.**), **Анфимов** (*председатель Комитета госконтроля.* – **Ред.**) и **Шейман** (*руководитель Управления делами Президента Республики Беларусь.* – **Ред.**). Чтобы это было реализовано. Попробуем без правительства это реализовать. У нас есть некоторые резервы в бюджете и банке. И не дай Бог к 7 ноября не будет здесь подвижек! Я уже вчера сказал: я приеду, посмотрю, и будем еще по льноводству совещание проводить. И не дай Бог мой глаз зацепится, где-то что-то не так...»

***(Во время совещания 14 августа в Орше.)***

КОГДА ВЕРСТАЛСЯ НОМЕР

### Освобождены от должностей

Вчера А.Лукашенко подписал указ об освобождении от должностей министра архитектуры и строительства **Анатолия Черного** и министра промышленности **Виталия Вовка** – за невыполнение поручений главы государства по комплексному развитию Оршанского района и ненадлежащее исполнение служебных обязанностей.

Строгий выговор объявлен председателю Витебского облисполкома **Николаю Шерстневу.**

Госсекретарь Совета безопасности Беларуси **Станислав Засъ** и председатель Государственного военно-промышленного комитета **Олег Двигалев** предупреждены о неполном служебном соответствии.

АБЗАЦАМ

### Настаўнікаў кітайскай мовы стане больш

У Беларусі маюць намер пашыраць выкладанне кітайскай мовы ў школах.

*“Ёсць праблема з забяспечанасцю кадрамі. Выпускнікі МДЛУ ўсё больш прыцягваюцца ў розныя кітайскія кампаніі. У гэтым годзе мы адкрываем перападрыхтоўку для настаўнікаў замежных моў”*, – цытуе belta.by міністра адукацыі **Ігара Карпенку**.

РЭДКІ ВЫПАДАК

### Пост у «Фэйсбуку» з’явіўся падставай для самаадводу суддзі

Блогер **Андрэй Павук** праз суд дамагаецца права прысутнічаць на планёрках Акцябрскага райвыканкама. Да гэтага ён звяртаўся ў райвыканкам, але той яму адмовіў. Блогер звярнуўся са скаргай на дзеянні Акцябрскага райвыканкама і Акцябрскага раённага Савета дэпутатаў Гомельскай вобласці, і суд узбудзіў грамадзянскую справу.

Суддзёй па гэтай справе быў прызначаны суддзя суда Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці **Уладзімір Васілеўскі**.

15 жніўня адбывалася другое судовае пасяджэнне па скарзе блогера. Але суддзя Уладзімір Васілеўскі вынес вызначэнне аб самаадводзе. Падставай для прынятага суддзёй рашэння стала тое, што Андрэй Павук 14 жніўня выклаў у інтэрнэт фотаздымак з аркушам, які забыўся памочнік пракурора **Вадзім Шыбут** у судзе.

У знойдзеным дакуменце была інфармацыя, падобная на рашэнне суда. Аб гэтым Андрэй Павук напісаў на сваёй старонцы ў “Фэйсбуку”:

*«15-хвілінны перапынак у судзе. Памочнік пракурора забыў шпаргалку з прынятым рашэннем. Яшчэ не выслухоўвалі тлумачэнні і довады».*

У прынятым вызначэнні суддзя **Уладзімір Васілеўскі** адзначае:

*«Дакумент быў расцэнены заяўнікам як рашэнне па справе, што выклікала абмеркаванне карыстальнікаў сеткі інтэрнэт».*

Суддзя ў судовым рашэнні адзначае, што ўказаная публікацыя можа выклікаць сумневы ў староннага назіральніка ў бесстароннасці суддзі.

ПАД ГРАДУСАМ

### Лета працягваецца!

Сіноптыкі кажуць, што ў выхадныя надвор’е будзе даволі камфортным.

***У суботу*** ў асобных раёнах краіны, а днём на большай частцы тэрыторыі Гомельскай, Мінскай і Віцебскай абласцей прагназуюцца кароткачасовыя дажджы, месцамі з навальніцамі. Уначы будзе +10...+17ºС, днём +22...29ºС.

***У нядзелю*** 19 жніўня дажджы будуць ісці радзей. Ноччу і раніцай месцамі прагназуюцца слабыя туманы. Вецер будзе няўстойлівы слабы, пры навальніцах парывісты. Тэмпература паветра ўначы складзе +13...+18ºС, днём +22...+29ºС.

*«Такія тэмпературы будуць на 2–5 градусаў перавышаць кліматычную норму*, – цытуе belta.by сіноптыкаў. – *Паводле папярэдняга прагнозу, на пачатку наступнага тыдня рэзкіх змяненняў у характары надвор’я не чакаецца, жнівень працягне нас радаваць цёплым летнім надвор’ем».*

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Вызвалены пад хатні арышт?

*Хто і на якіх умовах адпушчаны “па справе медыкаў”?*

Днямі Камітэт дзяржаўнай бяспекі паведаміў пра расследаванне гучнай крымінальнай справы па фактах карупцыі ў сферы аховы здароўя, па якой у чэрвені-ліпені былі затрыманы як мінімум 16 (!) чалавек, сярод якіх намеснік міністра аховы здароўя **Ігар Ласіцкі,** генеральны дырэктар «Белфармацыі» **Вячаслаў Гніцій**, дырэктар «Белмедтэхнікі» **Аляксандр Шарак,** а таксама галоўныя ўрачы шэрагу вядучых клінік краіны і нават дырэктар РНПЦ траўматалогіі і артапедыі акадэмік **Аляксандр Бялецкі**. Усяго па справе праходзяць больш за 50 чалавек.

Інфармацыя КДБ умясцілася ў адным абзацы: *“У сувязі з завяршэннем з шэрагам абвінавачаных асноўных следчых дзеянняў, іх дзейным раскаяннем і супрацоўніцтвам са следствам следчымі прынята рашэнне аб змене ім меры стрымання на не звязаную з пазбаўленнем волі. У цяперашні час вызваленыя асобы не могуць займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых і адміністрацыйна-гаспадарчых абавязкаў, да разгляду крымінальных спраў у судзе і ўступлення ў законную сілу прысудаў па іх. Іншымі словамі, яны могуць працаваць шараговымі ўрачамі”.*

Аднак імёны тых, хто вызвалены з СІЗА, у КБД не паведамляюць. Не называюць нават, колькі чалавек адпушчана і ці ёсць сярод іх чыноўнікі ад медыцыны. Афіцыйны прадстаўнік КДБ **Андрэй Яраш** паведаміў “Народнай Волі”, што *“следства ідзе, таму прозвішчы адпушчаных называць не будзем”. “Думаю, крыху пазней будуць афіцыйныя паведамленні пра тое, як працягваецца следства, калі пачнуцца судовыя справы. Усе падрабязнасці наперадзе”*, – адзначыў Андрэй Яраш.

Аднак з некаторых крыніц стала вядома, што сярод тых, хто вызвалены, галоўны ўрач Мінскай абласной клінічнай бальніцы **Андрэй Каралько,** намеснік дырэктара РНПЦ дзіцячай хірургіі **Аляксандр Махлін,** галоўны ўрач Віцебскай абласной клінічнай бальніцы **Анатолій Аладзька.**

Але, напрыклад, ні Аладзька, ні Каралько ў свае клінікі не вярнуліся нават звычайнымі ўрачамі. У Віцебскай абласной бальніцы на гэты конт кажуць: *“Мерай стрымання, не звязанай з пазбаўленнем волі, можа быць як падпіска аб нявыездзе, так і хатні арышт. Анатолій Анатольевіч Аладзька зараз у Віцебску, аднак у бальніцу ён ні разу не прыходзіў”.*

На сайце Віцебскай абласной бальніцы пасада галоўнага ўрача вакантная. А вось на сайце Мінскай абласной пазначана, што Андрэй Каралько ўсё яшчэ галоўны ўрач бальніцы. Але літаральна ўсе затрыманыя па карупцыйнай справе ў сферы медыцыны вызвалены ад сваіх пасад.

Бадай толькі адзін адпушчаны доктар, які праходзіць па карупцыйнай справе, пазбаўлены адміністрацыйнай пасады, але працягвае апераваць, – гэта Аляксандр Махлін, унікальны спецыяліст, бліскучы дзіцячы хірург, які адзіны ў Беларусі выконвае некаторыя віды малаінвазіўных аперацый.

Вядома, што ў СІЗА застаюцца былы дырэктар РНПЦ траўматалогіі і артапедыі **Аляксандр Бялецкі** і былы галоўны ўрач 1-й гарадской бальніцы Мінска **Алег Фамін.** Менавіта ў тайніках гэтых медыкаў следчыя КДБ знайшлі буйныя сумы грошай (у Бялецкага – каля 500 тысяч долараў, у Фаміна – каля 140 тысяч), а відэа ператрусаў па месцы іх жыхарства былі паказаны на ўсю краіну па Беларускім тэлебачанні. Паводле некаторай інфармацыі, акадэмік Бялецкі, напрыклад, застаецца за кратамі таму, што не супрацоўнічае са следствам.

ДАРЭЧЫ

## Алег РУМО:
## «У мяне няма ніякай інфармацыі»

Сярод затрыманых у чэрвені па карупцыйнай справе ў сферы медыцыны быў і галоўны ўрач 9-й гарадской клінічнай бальніцы Мінска **Валерый Кушнірэнка.**

Доўгі час на сайце ўстановы Кушнірэнка быў пазначаны як кіраўнік клінікі. Але 1 жніўня 9-я бальніца афіцыйна перайменавана ў Мінскі навукова-практычны цэнтр хірургіі, трансплантологіі і гематалогіі. Кушнірэнка, дарэчы, у свой час быў супраць такіх змен у статусе клінікі. Але зараз гэта ўжо другасна, цікава іншае – хто ўзначаліць цэнтр.

На дадзены момант на сайце новай установы ў раздзеле “Нашы ўрачы” першай з’яўляецца фатаграфія і прозвішча Валерыя Кушнірэнкі, але якую ён займае пасаду, не пазначана. У раздзеле “Адміністрацыя” пералічаны толькі намеснікі дырэктара новага цэнтра, сярод якіх і вядомы трансплантолаг прафесар **Алег Румо.** Ён зараз выконвае абавязкі кіраўніка медустановы. На пытанне адносна лёсу Валерыя Кушнірэнкі – застаецца ён за кратамі ці не, – Алег Румо адказаў вельмі каротка: *“У мяне няма ніякай інфармацыі”.*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

РЕЗОНАНС

## Василий ШЛЫНДИКОВ:
# «Красиво поздравили министра...»

Во время визита в Оршанский край Александр Лукашенко поставил перед выбором министра промышленности **Виталия Вовка**: или он отправляется поднимать Оршанский инструментальный завод, или некоторое время придется провести на нарах.

«У него выбор один: или тюрьма, или сюда, – публично об этом говорю», – строго заявил Лукашенко.

Экс-глава концерна «Амкодор» **Василий Шлындиков** считает, что в данной ситуации тюрьма – не самый плохой выбор.

– Потому что если не удастся выполнить поставленные задачи, то все равно можно оказаться на нарах, и тогда выбора уже не будет, – *говорит Василий Шлындиков.* – Но сегодня вряд ли найдется такой гордый министр, который об этом скажет прямо.

Каждый, кто идет во власть и соглашается на какие-то посты, должен понимать, чем все может закончиться. Министерское кресло не спасает от проблем. Скорее, наоборот.

**– Белорусский посол в Китае Кирилл Рудый на вопрос о том, чем руководствовался он, 35-летний доктор наук с западным опытом и свободным английским, решив сделать ставку на госслужбу, ответил примерно так: хотелось что-то сделать, добиться результата, самореализоваться.**

– Ну и что, получилось что-то изменить, на что-то повлиять? Написал книгу о финансовой диете и правильном распределении бюджета. И все на этом. При нынешней системе госуправления влиять на все может лишь один человек. Поэтому и говорю: не понимаю тех, кто сегодня идет во власть. Или думают, что их лихо минет? Кое-кого, правда, минуло. Но это, скорее, исключение из правил.

Мне в свое время тоже предлагали министерский портфель. Я спросил: будут ли у меня реальные полномочия, буду ли самостоятелен в своих решениях? Просто собирать статистику о выполненных показателях и молча сидеть на совещаниях – я отказался. И нисколько не жалею об этом.

**– А как вы относитесь к идее создать промышленный рай в Оршанском крае?**


Виталию Вовку есть над чем подумать...

– Где у нас только этот рай уже не создавали! В Беларуси вообще рай: климат неплохой, замечательная природа, люди отличные. Казалось бы, живи, работай, радуйся жизни. Только у очень многих моих знакомых дети уехали из Беларуси. Не хотят почему-то жить в этом раю... Молодежь едет в Европу, Америку и там достигает карьерных высот.

**– В тот день, когда министра промышленности Виталия Вовка поставили перед непростым выбором, у него был день рождения...**

– Нормальное праздничное настроение человеку создали, красиво поздравили министра...

**Марина КОКТЫШ.**

КАЗУС

### Российская газета похоронила Семена Шапиро

*На страницах «Московского комсомольца» за 31 июля опубликован некролог по случаю смерти Семена Шапиро.*

Казус в том, что фотографией экс-главы Миноблисполкома **Семена Борисовича Шапиро** проиллюстрировали текст соболезнования по поводу смерти доктора технических наук, профессора, завкафедрой физики Уфимской государственной Академии экономики и сервиса **Семена Валентиновича Шапиро.**

Будьте здоровы, Семен Борисович!

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Война за память

Ладно с ним, с Лениным! И с Дзержинским тоже – ладно! Но вот за что белорусский народ так любит «всесоюзного старосту» Михаила Калинина – ума не приложу. Репрессии против всего советского и партийного аппарата на территории БССР осуществлялись с его визированием. И вся его заслуга перед белорусской землей – проезд по территории в агитационном поезде и выступление в Минске. Все. Но минским властям, видите ли, позарез понадобилось реставрировать памятник этому «дедушке» – недавно даже тендер объявили. Можно подумать, у них есть лишние деньги!

Да, кстати: Калинин – единственный сталинский соратник, реально «пострадавший» в годы суверенитета. Когда сносили старое здание железнодорожного вокзала в Минске, то заодно снесли и мемориальную доску в честь выступления Калинина на митинге. И восстанавливать не стали. Восстановили бы – выглядели бы совершенными идиотами. Что там писать? «Здесь стояло снесенное нами здание вокзала, возле которого выступал видный деятель коммунистической партии и советского государства»? Издевательство какое-то: ничего нет – ни здания, ни партии, ни государства – осталась бы исключительно доска.

А сколько колхозов имени Калинина остается? Сколько улиц и переулков? Но вы остановите прохожего на столичной площади Калинина у памятника Калинину и спросите, кто это такой. Мое поколение и люди постарше вспомнят. Те, кому во время распада СССР было лет пятнадцать, – уже нет.

Памятник – есть. Памяти – нет.

Хотя – и память есть!

Был такой писатель – Лев Разгон. Отсидел в сталинском ГУЛАГе семнадцать лет: частью за то, что был зятем видного чекиста Глеба Бокия, частью за то, что якобы во время войны распространял пораженческие настроения в самом лагере (он потом писал: мол, объяснял суду, что еврей никак не может желать победы Гитлера, но ему не поверили). В мемуарной книге Разгона «Непридуманное» есть очерк «Жена президента». О том, как в лагере немолодая эстонка Екатерина Ивановна Лоорберг стеклышком выскабливала из пропаренной одежды зэков мертвых вшей. И была она законной женой «всесоюзного старосты» (прозвище это, кстати, Калинину придумал Лев Троцкий). Причем арестовали ее в том же 1938 году, что и Льва Разгона, по закону, подписанному ее мужем. Мужем, которому арест жены и матери его четверых детей не мешал напиваться на сталинских ночных пирушках и ухаживать за балеринами Большого театра.

Страшную книгу написал Лев Разгон, родившийся и проживший пятнадцать лет в городе Горки Могилевской области. Но улицы его имени там нет. А улица Калинина – есть.

И в каждом крупном населенном пункте есть у нас улица Калинина. После Ленина и Дзержинского подслеповатый человек с бородкой, подписывавший все репрессивные законы в годы «большого террора», – самый любимый.

Я не призываю переименовать улицу Калинина в Горках в улицу Льва Разгона, хотя, с моей точки зрения, Лев Эммануилович как раз доброй памяти заслуживает. Но в белорусской истории множество людей, оставивших свой след – добрый, а не кровавый. Есть строители и художники, спасатели и воины, учителя и врачи. Помню, как я ходил по улицам Киева – и меня потрясло число мемориальных досок в честь врачей. Их там почти столько же, сколько памятных знаков в честь писателей. Кстати, не только украиноязычных писателей. Есть там мемориальные доски в честь Александра Вертинского, Анны Ахматовой, Николая Ушакова, Ярослава Гашека. У украинского народа вообще хорошая память.

И долгая.

Есть в Киеве сквер, который раньше носил имя репрессированного руководителя украинских коммунистов Станислава Косиора. И там был памятник ему. Снесли памятник в 2008 году задолго до начала официальной «декоммунизации»: Косиор был рьяным проводником сталинской политики коллективизации, которая привела к голодомору. Памятник снесли, оставив только постамент. Как знак того, что ничто не забыто – в том числе и жертвы голодомора. Может быть, когда-нибудь, поставят на его месте другой памятник – великому художнику, артисту, государственному деятелю независимой Украины. Но пока – пустой постамент. Памятника нет, а память – недобрая память – есть.

Наши соседи и братья литовцы поступили проще. Свезли по инициативе бизнесмена Вилюмаса Малинаускаса (кстати, простого деревенского парня, сына репрессированного крестьянина) в парк «Грутас» памятники коммунистическим деятелям со всей Литвы. Я был в этом парке. Ранним утром, когда туман еще не осел, идешь по деревянным мосткам, проложенным через болото, и натыкаешься на протянутую тебе руку вождя мирового пролетариата. Символично. Советский Сусанин знает, куда вести.

Разные есть варианты. Нет лишь одного: строить современное суверенное государство, проигрывая войну за память собственному советскому прошлому. Не культуре – «совку»! Нужно раз и навсегда провести пограничную линию между тем прошлым, которое поглощает нас, лишает нас будущего, и тем, основываясь на котором, мы сами строим свое будущее.

И дело не в национализме, которым пугают нас восточные соседи: в Вильнюсе есть улица Стендаля (он там был в 1812 году), в Киеве – улицы Драйзера и Бальзака (и эти там бывали), сквер имени Махтумкули (этот в Киеве не бывал, но поэт действительно хороший) – совсем уж не национальные деятели культуры. Но то – культура! Назовите мне одну-единственную причину, по которой Михаил Иванович Калинин заслуживает трехсот улиц и переулков в населенных пунктах Беларуси, – и я сниму перед вами шляпу.

А если уж должна быть улица в честь главы государства, забывшего жену в концлагере, то пусть это будет улица в честь главы суверенной Беларуси. Когда-нибудь. И то – не приведи Бог. Пусть лучше жены президентов остаются на свободе и с любящими их мужьями.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Максім ВІНЯРСКІ: «Мяне забралі ў пастарунак разам з сабакам…»

*Пасля адбыцця дзесяцісутачнага адміністрацыйнага арышту ў ізалятары на Акрэсціна на волю выйшаў адзін з самых актыўных удзельнікаў пратэсту ў Курапатах – актывіст незарэгістраванай "Еўрапейскай Беларусі" Максім Вінярскі.*

*Пра сваё затрыманне і ўмовы знаходжання за кратамі ён распавёў карэспандэнту "Народнай Волі".*

– Распачну з таго, як мяне "бралі". Ранкам 4 жніўня я выйшаў з хаты з сабакам – пайшоў сустракаць сястру. Мяне затрымалі людзі ў цывільным. Як я зразумеў з іх размоў, мяне шукалі яшчэ да суда, які і прыняў рашэнне аб маім арышце. Дзіўна, што я пра гэтае пасяджэнне ведаць не ведаў – нават СМСку на тэлефон не прыслалі, не кажучы пра афіцыйную позву.

Пасля затрымання мяне разам з сабакам завезлі ў РУУС Фрунзенскага раёна Мінска (пазней сабаку забралі адтуль сваякі). А мяне павезлі на Акрэсціна.

**– Для вас гэта не стала нечаканасцю?**

– У знаходжанні на Акрэсціна для мяне, на вялікі жаль, не было нічога асаблівага, ужо прызвычаіўся. Усё было стандартна. Па вялікім рахунку мне не вельмі важна, у якіх умовах я ўтрымліваўся і ці захоўваліся ўсе мае правы… Для мяне галоўнае іншае. Беларусь застаецца аўтарытарнай краінай, без аб'ектыўнага правасуддзя, дзе людзей кідаюць за краты па сутнасці без якіх бы то ні было правапарушэнняў.





**– І ўсё ж такі раскажыце крыху пра побытавыя рэчы, калі гэты выраз пасуе да знаходжання чалавека за кратамі.**

– Большую частку гэтага тэрміну я знаходзіўся ў камеры, якая разлічана на чатырох чалавек, нас там і было чацвёра. Змяніў тры камеры. За час зняволення мне толькі адзін раз дазволілі скарыстацца душам. Такія правілы: адна памыўка ў сем сутак. Нягледзячы на спёку ці яшчэ што. Па вялікім рахунку ніякіх прэтэнзій, якія тычацца побытавых рэчаў, у мяне не было. Адзінае, на што хацеў бы звярнуць увагу, дык гэта на пільнасць супрацоўнікаў ізалятара. Яны вельмі ўважліва пільнавалі за тым, каб у камеры, дзе я знаходзіўся, ні ў кога з сядзельцаў не было ні асадкі, ні аркуша паперы. Каб я не здолеў напісаць скаргу. Я так разумею, што асадкі знікалі і з перадач, якія мне перадавалі.

**– Як цяпер кормяць на Акрэсціна? Ці не адмаўляліся вы ад турэмнай ежы?**

– Скажу адразу: ад харчавання я не адмаўляўся, бо не лічыў гэта мэтазгодным. Мае "суткі" нішто ў параўнанні з тым, што адбываецца зараз у Расіі з Алегам Сянцовым – ён галадуе чацвёрты месяц… На гэтым фоне распачынаць галадоўку ў межах адміністрацыйнага арышту і не варта. А што да турэмнага меню, то яно на Акрэсціна застаецца нязменным і неразнастайным: зранку – каша, у абед – суп, вечарам ізноў каша… На гэтым асабліва не засяроджваўся. Чалавек прызвычайваецца да любых умоў, якія ён дазваляе да сябе прымяняць.

**– Ці адчувалі вы нейкае асаблівае стаўленне да сябе з боку супрацоўнікаў ізалятара?**

– Як і заўсёды, у адносінах да "палітычных" сядзельцаў яны проста выконваюць тое, што ім загадана начальствам. Загадана адбіраць асадкі – адбіраюць, загадана выводзіць на шпацыр – выводзяць. Насельнікаў камер, у якіх я сядзеў, выводзілі на шпацыр кожны дзень. Не на гадзіну, як прапісана ў правілах, але ж выводзілі.

Увогуле, стаўленне нармальнае. А вось іншым дастаецца. Аднойчы я чуў, як супрацоўнікі ізалятара хамілі цяжарнай маладой жанчыне. Яна прасіла, каб яе пакінулі ў камеры з іншымі затрыманымі, бо не хацела сядзець адна. На яе лаяліся амаль матам. Сэнс быў такі: "Ты не будзеш выбіраць, дзе цябе сядзець!" Я ўпэўнены: супрацоўнікі ІЧУ цудоўна ведаюць, як з кім ім дазволена сябе паводзіць.

**– Ці ведалі вы, што на Акрэсціна знаходзяцца журналісты па "справе БЕЛТА"?**

– Так, ведаў і якраз-такі з нумара "Народнай Волі", які мне перадалі ў адной з перадач. Але ні з кім з фігурантаў гэтай справы не перасякаўся.

**– Максім, я так разумею, што чарговы адміністрацыйны арышт ніяк не паўплывае на вашу грамадзянскую пазіцыю. Вы і далей будзеце ўдзельнічаць у курапацкіх пікетах?**

– Я ўвогуле не лічу, што гэты арышт быў звязаны з Курапатамі, – хутчэй за ўсё, ён быў звязаны з маёй асобай. Бо ведаю, што за падзеі таго дня, за якія я быў асуджаны на суткі, іншыя абаронцы атрымалі штрафы. Таму ёсць падставы меркаваць, што да мяне і Паўла Севярынца, які таксама атрымаў суткі, практыкуецца больш пільнае і больш жорсткае стаўленне. Сілавікі думаюць, што, калі выцягнуць мяне і Севярынца з шэрагаў абаронцаў, варта ў Курапатах спыніцца. Але ж, вы бачыце, гэтага не адбылося. Не толькі пасля нашых арыштаў, але і пасля заявы кіраўніцтва Партыі БНФ аб тым, што яны прыпыняюць удзел у абароне.

**– Як, дарэчы, вы паставіліся да гэтай заявы?**

– Гэта справа людзей, якія дазваляюць сабе такія заявы. Ім з гэтым жыць, гэта на іх сумленні…

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

З ЗАЛЫ СУДА

# Справа прафсаюзаў: сексоты, праслухоўка і надвор'е

Суд Савецкага раёна Мінска працягвае разгляд крымінальнай справы старшыні прафсаюза РЭП Генадзя Фядыніча і бухгалтара арганізацыі Ігара Комліка. Іх абвінавачваюць ва ўхіленні ад уплаты падаткаў у асабліва буйным памеры. Такое абвінавачанне падпадае пад дзеянне часткі 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэкса Беларусі.

Разгляд справы распачаўся яшчэ 30 ліпеня. Працэс вядзе суддзя Марына Фёдарава, дзяржаўнае абвінавачанне падтрымліваюць пракуроры Вадзім Казей і Ірына Арлоўская. Працэс цягнецца ўжо два тыдні, чарговае судовае пасяджэнне прызначана на сёння, 17 жніўня. Абвінавачаныя віны не прызнаюць.

"Народная Воля" сабрала самыя цікавыя факты, якія ўсплылі ў ходзе судовага разбіральніцтва.

## Сакратарка-сексот

У першы ж дзень судовага разбіральніцтва суд пачаў дапытваць сведак па справе. Адной з іх была Юлія Юхнавец, якая працавала ў прафсаюзе РЭП сакратаркай у перыяд з 2014-га па 2016 год. За гэты час, паводле яе слоў, яна неаднаразова выязджала ў Вільнюс, дзе Фядыніч або Комлік перадавалі ёй грашовыя сродкі ў замежнай валюце – звычайна сума складала прыкладна 5000 еўра. Паводле слоў Юхнавец, кіраўнікі РЭП тлумачылі ёй, што гэтыя сродкі пойдуць "на дзейнасць прафсаюза". У Мінску дзяўчына вяртала грошы кіраўніцтву РЭП.

На працэсе высветлілася, што Юхнавец фатаграфавала перададзеныя ёй купюры, бо з'яўлялася агентам КДБ з 2015 года. За супрацоўніцтва з беларускімі сілавікамі дзяўчына атрымлівала ўзнагароджанне.

Нягледзячы на пратэст адваката Фядыніча, абгрунтаваны тым, што паказанні Юхнавец не маюць нічога агульнага з падзеямі 2011–2012 гадоў, з разбору якіх і распачаўся суд, суддзя не знайшла прычын для спынення допыту Юхнавец.

## Праслухоўка працуе дагэтуль

Пра тое, што фігурантаў справы працягвалі праслухоўваць нават пасля таго, як пачалося судовае разбіральніцтва, расказала пракурор Арлоўская: "З 31 ліпеня па 9 жніўня праведзена аператыўна-вышуковае следства. Некаторыя дадзеныя запісаны".

Следства праводзілася з нагоды таго, што некаторыя сведкі па справе заявілі пра факты ціску на іх. Пасля праверкі гэтыя факты не пацвердзіліся. А размовы, якія трапілі пад праслухоўванне, тычыліся якраз таго, як сведкі павінны рэагаваць на ціск, які ў дачыненні да іх адбываецца. Так, у адной з праслуханых размоў Генадзь Фядыніч дае параду адной са сведак ісці ў пракуратуру разам з адвакатам.

"Я пакуль на свабодзе і з'яўляюся кіраўніком прафсаюза, – звярнуўся Фядыніч у судзе да пракурора. – Гэтая размова з бухгалтарам Генрыхавай… Вы не мелі права зачытваць увогуле! За кожным са сведкаў у сем гадзін раніцы прыйшлі па чатыры чалавекі. Вы кажаце, што няма ціску, але тут жа пярэчыце гэтаму. Нельга было іх па-іншаму выклікаць? І мы будзем тлумачыць людзям, як паводзіць сябе, распавядаць пра іх правы і абавязкі падчас допытаў. Яны не ведаюць гэтага, бо не адукаваны юрыдычна, а вы гэтым карыстаецеся…"

## Сфальсіфікаваная цешча

Калі на судзе зачытвалі матэрыялы праверкі сям'і Ігара Комліка, выявілася, што, згодна з імі, цешча Комліка "памаладзела" на восем гадоў.

"Высокі суд, звярніце ўвагу! Пра цешчу, з якой я жыву душа ў душу і якая нарадзілася ў 1932-м у Магілёўскай вобласці… А пракурор няправільна называе. Мне нават цешчу сфальсіфікавалі", – заявіў у судзе Комлік.

На яго думку, гэтая нязграбнасць, як і многія іншыя, паказвае неахайнае стаўленне боку абвінавачання да самой справы.

## І коратка – пра надвор'е…

На думку абвінавачання, віну Генадзя Фядыніча пацвярджае змест яго тэлефонных размоў. На адным з пасяджэнняў у судзе была прадстаўлена тэлефонная размова Фядыніча са старшынёй Беларускага незалежнага прафсаюза Мікалаем Зіміным. Вось яе змест:

"*– Добры вечар!*

*– Добры!*

*– Як надвор'е?*

*– Там буран нейкі…*

*– Не ведаеш, там далей пайшло?*"

Адвакат запытаўся ў Зіміна: "Размова ішла пра надвор'е?" Той адказаў: "Натуральна".

Але пракурор Арлоўская прадэманстравала іншую логіку: "Калі б летам не ўспаміналі буран, то і падазрэнняў не было б".

**Падрыхтаваў Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

ПАРАЛЛЕЛИ

# «Жалоб не поступало»

Пару дней назад в итальянской Генуе случилась трагедия – 200-метровый пролет автомобильного моста обрушился на складские помещения и железнодорожные пути. В момент ЧП на виадуке находилось много автомобилей, погибли десятки человек.

Прокурор города Франческо Коцци отреагировал мгновенно, заявив, что причиной обрушения стала человеческая ошибка.

*«Теперь прокуратуре предстоит собрать документы и показания, относящиеся к строительству моста и работам по его обслуживанию*, – цитировали слова прокурора информагентства. – *Мы должны ответить на один-единственный вопрос: почему это случилось? Это наша задача, и мы сделаем все необходимое».*

В Беларуси за последнее время тоже были истории, связанные с аварийным состоянием мостов. До жертв, к счастью, не доходило. Разрушился мост на Припяти, последний случай – на внутреннем кольце МКАД в районе Лошицы лопнула одна из балок перекрытия. Движение в этом месте перекрыто. Городские власти уже озвучили стоимость ремонта – около 2,5 миллиона долларов.

А кто виноват в том, что случилось? Службы, которые должны следить за состоянием мостов? Проектировщики? Строители? Время? Может, Генеральная прокуратура знает ответы на эти вопросы и проводит какое-то разбирательство?

*«В Генеральную прокуратуру не поступали обращения от граждан с просьбой провести проверку того, что случилось*, – ответили в пресс-службе. – *Не было ни жалоб на действия местных властей, ни просьб организовать специальную проверку. Необходимо дождаться заключения экспертизы, чтобы понять, что произошло».*

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

УСМЕШКА МАСТАКА





Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

У Светлагорскім раёне зламыснік залез у дачны дом у садовым таварыстве "Усход" і вынес адтуль бензапілу, бензагенератар ды іншыя рэчы.

Літаральна праз некалькі дзён гаспадар лецішча пабачыў абвестку аб продажы бензагенератара і западозрыў, што гэта яго скрадзенае абсталяванне. Разам з міліцыянерамі мужчына пайшоў на сустрэчу з прадаўцом і апазнаў сваю маёмасць. Прадаўца затрымалі. Гэта 26-гадовы хлопец, які раней ужо меў судзімасць. На яго завялі крымінальную справу.

РАЗБОР ПОЛЕТОВ

# Юрий ПАШИК: «Четыре года – и ты миллионер!»



*Как белорусские чиновники, откомандированные в Москву, буквально за пару лет умудряются стать миллионерами?*

*Почему российская таможня до сих пор пристрастно относится к сертификатам, выданным в Беларуси?*

*И может ли из-за обычной лампочки разгореться серьезное противостояние между странами?*

*«Народная Воля» обсудила с директором ОАО «БЕЛЛИС» **Юрием Пашиком** темы, которые даже некоторые министры стараются обходить стороной.*

*В отличие от них Юрий Александрович не разводит политес, а называет вещи своими именами.*

### Регламент преткновения

Как сообщала «Народная Воля», месяц назад коллегия Евразийской экономической комиссии одобрила проект технического регламента Евразийского экономического союза (ЕАЭС) «О требованиях к энергетической эффективности энергопотребляющих устройств». Чуть больше недели назад на сайте ЕЭК появилась заметка *«Остается один шаг до установления единых требований по энергоэффективности в ЕАЭС»*, в которой объясняется, что регламент разработан для обеспечения потребителей современной энергоэффективной продукцией.

*«Требования техрегламента исходят из лучшей мировой практики в этой сфере и во многом идентичны заложенным в директивах и регламентах Европейского Союза нормам,* – говорится в тексте. – *Документ был одобрен на заседании Коллегии ЕЭК 17 июля этого года после тщательного консультирования с бизнес-сообществом пяти стран, в том числе путем проведения процедуры публичного обсуждения, оценки регулирующего воздействия. Комиссия заблаговременно (за 30 дней до обсуждения) информировала все страны Союза о планируемом обсуждении, так же как и при принятии всех других решений ЕЭК.*

*По состоянию на 17 июля оставалось одно разногласие, которое планируется обсудить на заседании Совета ЕЭК, – форма оценки соответствия продукции. Большинство стран ЕАЭС считает, что основной формой оценки соответствия (для 14 из 18 видов энергопотребляющих приборов) должно стать декларирование, что вытекает прежде всего из интересов бизнеса, а не только из интересов органов по оценке соответствия, поскольку сертификация является более трудоемкой, сложной и затратной процедурой, чем декларирование. Кстати, в лучшей мировой практике применяют только декларирование соответствия всех видов энергопотребляющих устройств как форму оценки соответствия».*

Директор ОАО «Испытания и сертификация бытовой и промышленной продукции «БЕЛЛИС» убежден: с принятием данного документа сильно поспешили. Почему? По мнению **Юрия Пашика**, поиском ответа на этот вопрос должны заняться правоохранительные органы.

– Утверждается, что регламент уже готов и осталось только последний вопрос – обсудить, что лучше: декларирование или сертификация, – *начинает серьезный разговор Юрий Пашик*. – Забегая вперед, сразу прокомментирую: на мой взгляд, декларирование – далеко не лучшая мировая практика для нас. Оно эффективно работает в странах, где бизнес имеет высокую социальную ответственность, где успешно работает надзор на рынке. Техрегламент в первую очередь направлен на защиту интересов потребителя, но почему-то на первом месте все равно оказываются интересы российского бизнеса, который завалил наш рынок некачественной продукцией и фактически сделал беспрепятственной работу всей белорусской промышленности с точки зрения конкуренции на рынке и освоения новой продукции.

Проводя сертификацию завозимой к нам продукции, мы смотрим не только на показатели энергоэффективности, но и на документы, оформленные при выдаче сертификатов по безопасности и электромагнитной совместимости. Так вот оказалось, что у большинства из предприятий, получивших сертификаты на серийное производство, за последние три-шесть лет вообще никто не проводил никаких проверок. Общаясь с представителями компаний, мы выяснили, что и испытания проводятся крайне редко. Сегодня самый востребованный специалист в Москве для таких организаций – специалист, который более-менее умеет писать протоколы.

В последнее время российская таможня снова начала блокировать белорусские сертификаты. Мы провели расследование, и, по нашему мнению, все это, мягко говоря, не соответствует принятому Единому таможенному кодексу. Таможня действительно может потребовать то, что захочет, но эти требования должны быть аргументированными! Однако никто на этом не заморачивается. Дайте и все! Причем порой требуют документы, которых в принципе не существует. На мой взгляд, это свидетельствует о том, что создана не единая система техрегулирования, а нечто иное, с чем надо серьезно разбираться правоохранительным органам.

Мне грустно об этом говорить, потому что речь идет о миллиардах долларов. И в распил и дележку этого денежного пирога вовлечены не уголовные авторитеты, а обычные инженеры. Это вообще может быть темой отдельного разговора. Потому что сегодня во всех постсоветских странах впору инженеров заносить в Красную книгу. Но вместе того, чтобы всячески опекать инженера, который является основой любой индустрии, любой промышленности, мы говорим об интересах бизнеса с минимальным уровнем социальной ответственности, мы хотим дать им возможность заработать еще больше денег.

При этом интересы потребителя и национальных производителей не учитываются вообще!

Я занимаюсь техническим регулированием с 1989 года, старше меня по опыту работы уже, наверное, никого нет. И, когда я вижу, что происходит сегодня, меня охватывает ужас. Текст регламента очень сырой, имеет много противоречий. Передо мной лежит заключение юридического департамента ЕЭК, где написано: *«Необходимо отметить, что проект Технического регламента содержит многочисленные замечания, в том числе редакционные, юридико-технические...», «что создает коллизии в правоприменительной практике»*. И этих замечаний такое количество, что они приводят просто отдельные примеры. К тому же текст регламента принимается раньше взаимосвязанных стандартов!

**– Ну и как коллегия ЕЭК могла утвердить такой техрегламент? Не читали что ли?**

– Погодите, это еще не все. В соответствии с положением о принятии регламента должен быть исчерпывающий перечень взаимосвязанных стандартов, где указан как минимум метод исследований. И вот буквально пару дней назад я, как и другие эксперты, получил перечень из 140 стандартов (*показывает огромную стопку бумаг. – М.К.*), по которым к 23 августа необходимо подготовить свое мнение. А на 24 августа уже назначено очередное заседание совета ЕЭК по этому вопросу!

**– И вы успеете?**

– Это физически невозможно! Это должно было делаться два, три года назад. В 2014 году была проведена процедура публичного обсуждения стандартов. Но тогда представили перечень стандартов, которые к регламенту вообще никакого отношения не имели. Некоторые стандарты были разработаны в последние два года.

**– Получается, нужно провести новые публичные обсуждения?**

– Непременно. Надо, чтобы специалисты внимательно посмотрели все стандарты, методы испытаний, а это не одного дня и даже месяца работа. В общем, стандарты появились только сейчас, а коллегия уже проголосовала, что все о'кей.

Как вы регламент принимаете без стандартов?

**– Все равно не могу понять, почему так случилось. Должна же быть какая-то причина, чей-то интерес в конце концов. Ну не под пытками же голосовали!**

– Первая причина – это тревога, что процедура сертификации в Беларуси выявит все проблемы сертификатов, выданных за ее пределами. Второе – зарплата 15–20 тысяч долларов в месяц. За год выходит 250 тысяч. Четыре года – и ты миллионер. Красиво, правда?

Причем в сопроводительных документах, не стесняясь, пишут: *«Предлагаемая редакция проекта перечня стандартов подготовлена на основании предложений Республики Беларусь и Российской Федерации и существенно отличается от первой редакции»*. Но самое удивительное, что многих стандартов еще вообще не существует, их разрабатывать надо.

Пояснительная записка тоже смешная. *«В результате применения стандартов на добровольной основе обеспечивается соблюдение требований техрегламента»*. Какие стандарты на добровольной основе?! Все требования стандарта основаны на методах испытаний. Если я провожу испытания по одной методике, а вы по другой, получаем Данкверт-молоко! Это фантастика просто!

До 2021 года еще нужно разработать 64 стандарта. Стандартов нет, а текст регламента, основанный на этих стандартах, уже есть! Телегу поставили, а лошади нет.

Нет стандартов – нет метрологической экспертизы. Потому что надо оценить, все ли правильно с точки зрения измерений, или опять получим Данкверт-молоко?

В пояснительной записке сказано: *«Реализация проекта перечня стандартов не повлечет дополнительных расходов бюджета Евразийского экономического союза»*. При чем тут ЕАЭС, когда для стран расходы будут сумасшедшие? Разработка стандартов, обучение персонала, закупка оборудования, создание лабораторий... Во всех странах практически ничего этого нет! Также указано, что технический регламент устанавливает требования для электрических ламп в части «количества циклов переключения». А это можно было написать только с большого бодуна.

**– Знаю, что Беларусь потратила на создание одних только испытательных лабораторий несколько миллионов долларов...**

– Десятки миллионов! И почти пять лет профессиональной системной работы.

Создается впечатление, что, как только в Беларуси появляется какая-то точка роста, она должна быть тут же задавлена! Был у нас прорыв с продуктами питания – появился господин Онищенко со своими претензиями. То же самое происходит сейчас и с техническим регулированием.

**– Некоторые заметили: у нас начинают действовать национальные требования в области техрегулирования, и Россия почти сразу выставляет нам претензии по поводу кредитов и прочего...**

– Расчет на то, что за счет прессинга нужное решение будет принято. Но в таком случае Беларусь просто потеряет свою промышленность.

### Вызываю огонь на себя...

**– Юрий Александрович, вы производите впечатление успешного человека, у вас есть хорошая работа. Почему вы говорите о тех проблемах, о которых члены правительства, министры и даже директора предприятий предпочитают промолчать?**

– Переживаю за страну. И хочу, чтобы мои сыновья жили и работали на Родине. Я представляю интересы нашей промышленности в системе технического регулирования. И очень чувствительно отношусь к тому, какой авторитет у Беларуси на региональном и международном уровне.

Я уже почти 30 лет профессионально занимаюсь этой работой и многие вещи вижу лучше, знаю, какие будут последствия от тех или иных решений.

Меня сильно расстраивает, что слишком много случайных людей заняли средний уровень управленцев. Это прежде всего руководители профильных организаций и предприятий. С каждым годом хороших, грамотных специалистов все меньше, они уходят – по разным причинам. И в это самое среднее звено пришли случайные люди, которые не обладают профессиональными знаниями, иногда даже не имеют базового образования в той области, которой они управляют. И это проблема! Я это ощущаю на себе, когда обсуждаем какую-то тему, и мы не можем найти консенсуса. Потому что на разном уровне знаний, понимания проблематики.

**– Ну удавалось же Петру Прокоповичу как-то без профильного образования руководить Нацбанком.**

– Рядом с ним были профессионалы. Без команды он провалился бы.

Я вижу режим работы сегодняшних министров. Огромный объем информации, документов, совещаний, где нужно присутствовать лично (и везде готовиться!). Режим, в котором долгие годы работают наши министры, это, я вам скажу, мама, не горюй! И чтобы министры работали эффективно, в среднем звене управления должны быть те, у кого подметки горят!

**– А может, нет стимула рвать подметки? Чиновники не раз жаловались на свою невысокую зарплату...**

– Я в прошлом спортсмен. И когда на вопрос «Почему плохо играют?» слышу «Мало платят», всегда говорю: ты забей сначала, стань чемпионом, а потом требуй новый контракт.

Иначе мы обречены на бесконечные проблемы, как с Минздравом. Потому что люди приходят на руководящие позиции и сразу начинают думать: а где же мой интерес? И все решения принимают через призму своих собственных интересов. И находят оправдание: мол, не известно, что со мной будет завтра, снимут с должности или нет. Я каждый раз впечатлен, когда при обысках у некоторых находят целые подвалы алкоголя, который не смогут выпить даже их внуки. Ну зачем эти бутылки? Не понимаю...

**– Как вы можете оценить первые результаты от введения сертификации по энергоэффективности?**

– Первый вызов – это надежда участников рынка на то, что за счет беспрецедентного давления на белорусское правительство, а также с принятием ЕАЭК неподготовленного единого регламента удастся отменить постановление правительства №849 от 21 октября 2016 года. Поэтому огромный объем заявок начал поступать только в последние три месяца. Но тем не менее положительные результаты уже есть. Мы получаем документированные доказательства того, что из себя представляет так называемая единая система технического регулирования в ЕАЭС. Мы также поняли, в каких аспектах нам самим необходимы улучшения.

Приведу один из наиболее показательных примеров. Мы получили фактически претензию от некоторых крупных производителей электрических ламп с мировыми именами: каким образом компания Ningbo Yusing Electronics Co., Ltd одной из первых получила сертификат на светодиодные лампы с торговым именем "Feron" и "Saffit". Закупили образцы, провели испытания и были поражены уровнем несоответствия не только по показателям энергоэффективности. И я уверен, что Госстандарт даст принципиальную оценку тем, кто (и как) сертифицировал и кто аккредитовывал эту организацию. От ошибок никто не застрахован, но главный критерий любой системы – это прежде всего наличие эффективной обратной связи и способности к саморегулированию и улучшению.

**– Как думаете, чем закончится история с принятием общего техрегламента? Удастся ли притормозить?**

– Насколько мне известно, сейчас по поручению вице-премьера Василия Матюшевского по этому поводу готовится совместный документ Минэкономики и Госстандарта.

**– Матюшевский не подпишет документ?**

– Надеюсь, что не подпишет. Иначе лично я перестану верить в Солнце...

Сейчас надо брать утвержденный порядок принятия регламента и действовать строго по пунктам. Сказано разработать стандарты – значит, разработать. Затем обсудить, провести метрологическую экспертизу и так далее...

**– В ЕЭК пост министра по вопросам технического регулирования пока еще занимает экс-глава Госстандарта Беларуси Валерий Корешков. Он мог повлиять на решение коллегии ЕЭК об одобрении техрегламента?**

– По моему личному убеждению, сегодня ЕЭК превратилась в круто лоббистскую структуру. Не знаю, как по другим направлениям, но что касается области технического регулирования, то у меня есть масса примеров...

Слишком много бывших белорусских высокопоставленных чиновников и командированных специалистов сегодня просто прекрасно чувствуют себя в Москве. Сидят на почетных должностях и получают хорошие деньги.

На мой взгляд, ЕЭК надо реформировать. Пусть в каждой стране будет штаб-квартира той или иной структуры, как в Евросоюзе, где есть Брюссель и Страсбург. И нам необходимо прекратить раскрыв рот смотреть на Москву. Нужно сохранять национальные признаки и отстаивать свои собственные интересы во всех областях – от техрегулирования до машиностроения. Ну и, безусловно, нужна совершенно новая генерация людей, которые будут работать в том числе и в структурах ЕЭК. Прежде всего – людей свободных...

**Марина КОКТЫШ.**

---

ДОБРАЯ НАВІНА

# Рэканструкцыя Бабруйскай дзіцячай бальніцы пачнецца ў лістападзе

*Гэтую інфармацыю ў мясцовай прэсе агучыў галоўны ўрач Цэнтральнай бальніцы горада **Уладзімір Гацко**.*



Для Бабруйска гэта балючая тэма. Для сацыяльна арыентаванай краіны – проста ганьба. Планавалася, што рамонт Бабруйскай дзіцячай бальніцы, якая абслугоўвае маленькіх пацыентаў з пяці раёнаў Магілёўскай вобласці, пачнецца яшчэ ў 2014 (!) годзе. Але фінансаванне тармазілася, планы карэкціраваліся. Увесну гэтага года зноў загаварылі аб пачатку рэканструкцыі: грошы мусілі паступіць з гарадскога і абласнога бюджэтаў, таксама да іх дадалі б дабрачынныя ахвяраванні (збор сродкаў ідзе з восені 2017 года). Але зноў не атрымалася.

І вось добрая навіна: рэканструкцыі быць у гэтым годзе!

Праўда, і зараз яшчэ не выдзелены ўсе грошы і не вызначана будаўнічая арганізацыя, якая зоймецца рамонтнымі працамі, але медыкі горада поўныя аптымізму. Паводле слоў Уладзіміра Гацко, сабрана 500 тысяч рублёў. Прычым больш за 300 тысяч – дзякуючы людскім ахвяраванням і канцэрту «Па закліку сэрца – усім светам», які арганізаваў наш зямляк спявак **Руслан Аляхно** і які адбыўся 18 красавіка на «Бабруйск-Арэне». Тады на рэканструкцыю дзіцячай бальніцы было пералічана амаль 110 тысяч рублёў.

Але, безумоўна, 500 тысяч на рэканструкцыю медустановы недастаткова.

– *Прайшло абмеркаванне абласной інвестыцыйнай праграмы, і плануецца на наступны год вылучыць 3 мільёны рублёў для таго, каб мы маглі завяршыць у наступным годзе рэканструкцыю асноўнага трохпавярховага корпуса, дзе размяшчаюцца лячэбныя аддзяленні,* – заявіў выданню bobrlife.by Уладзімір Гацко. – *Гэта першы і самы важны этап рэканструкцыі. Другі этап – рэканструкцыя двухпавярховага будынка, дзе раней размяшчалася паліклініка. Тут будуць працаваць дапаможныя службы і адміністрацыйна-кіраўнічы персанал.*

Плануецца, што поўная рэканструкцыя Бабруйскай дзіцячай бальніцы завершыцца да 2020 года.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

Фота bobrlife.by

